# ПАСЛАННЕ ДА ЦІТА

## 1 (1-16)

[1]Павел, слуга Бога і апостал Езуса Хрыста, дзеля веры тых, каго выбраў
Бог, і спазнання праўды адносна пабожнасці, [2]у надзеі на вечнае жыццё, якое
спрадвеку абяцаў праўдзівы Бог, [3]а ў адпаведныя часы з’явіў сваё слова ў
прапаведаванні, давераным мне паводле загаду Бога, Збаўцы нашага, [4]Ціту,
сапраўднаму сыну ў супольнай веры: ласка і спакой ад Бога Айца і Езуса
Хрыста, Збаўцы нашага.

[5]Дзеля таго я пакінуў цябе на Крыце, каб ты прывёў у парадак тое, што
засталося незакончаным, і прызначыў па гарадах старэйшых, як я наказваў табе,
[6]калі толькі гэта будзе чалавек бездакорны, муж адной жанчыны, які мае
веруючых дзяцей, неабвінавачаных у распусце ці непаслухмянасці. [7]Таму
біскуп павінен быць бездакорны, як Божы распарадчык, не дзёрзкі, не гняўлівы,
не п’яніца, не задзірысты, не карыслівы, [8]але гасцінны, любячы дабро,
разважлівы, справядлівы, пабожны, стрыманы, [9]які трымаецца, згодна з
вучэннем, праўдзівага слова, каб быў моцны, мог заахвочваць у здаровым
вучэнні і пераконваць тых, хто супярэчыць.

[10]Бо ёсць шмат непаслухмяных, пустасловаў ды спакушальнікаў, асабліва
сярод абрэзаных, [11]якім трэба закрыць вусны, бо яны цэлыя дамы руйнуюць,
навучаючы таму, што не належыць, дзеля ганебнай карысці. [12]Сказаў жа
хтосьці з іх, уласны іх прарок: «Крыцяне пастаянна маняць, яны лютыя звяры і
лянівыя жываты». [13]Сведчанне гэтае праўдзівае. Таму дакарай іх строга, каб
трывалі ў здаровай веры, [14]не звяртаючы ўвагі на юдэйскія байкі ці на загады
людзей, якія адварочваюцца ад праўды.

[15]Для чыстых усё чыстае. Для апаганеных і няверучых няма нічога
чыстага, бо забруджаны іх думкі і сумленне. [16]Кажуць, што ведаюць Бога, але
ўчынкамі сваімі гэтаму пярэчаць, яны агідныя і непаслухмяныя, няздатныя да
ніякай добрай справы.

## 2 (1-15)

[1]Тое кажы, што адпавядае здароваму вучэнню.

[2]Старэйшыя мужчыны павінны быць цвярозыя, годныя пашаны,
стрыманыя, здаровыя ў веры, у любові, у цярплівасці.

[3]Старэйшыя жанчыны таксама павінны паводзіць сябе так, як належыць
святым, не абмаўляць, не быць нявольніцамі віна, але вучыць прыгожаму.
[4]Няхай заахвочваюць маладых жанчын кахаць мужоў, любіць дзяцей, [5]быць
стрыманымі, цнатлівымі, добрымі гаспадынямі, паслухмянымі сваім мужам,
каб не зневажалася слова Божае.

[6]Юнакоў таксама вучы быць стрыманымі. [7]Ва ўсім давай сам прыклад
прыгожых учынкаў, у настаўніцтве непарушнасць, годнасць, [8]слова здаровае,
бездакорнае, каб праціўнік быў пасаромлены і не мог сказаць пра нас нічога
кепскага.

[9]Няхай слугі падпарадкоўваюцца сваім гаспадарам, ва ўсім стараючыся ім
падабацца, а не пярэчыць. [10]Няхай не прысвойваюць сабе [нічога], але
выяўляюць цалкам добрую волю, каб ва ўсім паказваць прыгажосць навукі
Бога, Збаўцы нашага.
[11]Бо з’явілася ласка Божая, збаўчая для ўсіх людзей, [12]якая вучыць нас, каб
мы, адрокшыся ад бязбожнасці і пажадлівасці свету, жылі ў цяперашнім жыцці
разважліва, справядліва і пабожна, [13]чакаючы шчаслівай надзеі і аб’яўлення
хвалы вялікага Бога і Збаўцы нашага, Езуса Хрыста, [14]які аддаў самога сябе за
нас, каб адкупіць ад усялякага беззаконня і ачысціць для сябе народ выбраны,
руплівы ў добрых учынках.
[15]Пра гэта кажы, да гэтага заахвочвай і дакарай з усёй уладаю. Няхай ніхто
табою не пагарджае!

## 3 (1-15)

[1]Нагадвай ім, каб слухаліся і падпарадкоўваліся кіраўнікам і ўладам, каб
былі гатовымі да ўсякай добрай справы, [2]каб нікога не зласловілі, не былі
сварлівымі, [але] спагадлівымі, выяўляючы ўсялякую далікатнасць да ўсіх
людзей.
[3]Бо і мы былі калісьці неразумнымі, непаслухмянымі, зведзенымі, служылі
розным жаданням і ўцехам, жылі ў злосці і зайздрасці, былі агіднымі і
ненавідзелі адзін аднаго. [4]Калі ж аб’явілася ласкавасць і любоў да людзей Бога,
Збаўцы нашага, [5]Ён не дзеля ўчынкаў справядлівасці, якія мы зрабілі, але
паводле міласэрнасці сваёй збавіў нас праз купель адраджэння і аднаўлення
Духам Святым, [6]якога шчодра выліў на нас праз Езуса Хрыста, Збаўцу нашага,
[7]каб, апраўданыя Ягонай ласкаю, мы сталі паводле надзеі спадкаемцамі вечнага
жыцця.
[8]Слова годнае даверу, і я хачу, каб ты ўпэўнена казаў пра гэта, каб тыя, хто
паверыў Богу, імкнуліся быць першымі ў добрых учынках. Гэта добра і карысна
для людзей. [9]Недарэчных пошукаў, радаводаў, спрэчак і змаганняў наконт
закону пазбягай, бо яны бескарысныя і марныя. [10]Таго, хто сее ерась, пасля
першага і другога настаўлення аддаляй, [11]ведаючы, што такі чалавек
выкручваецца і грашыць, асуджаючы самога сябе.
[12]Калі пашлю да цябе Артэмаса або Тыхіка, пастарайся прыйсці да мяне ў
Нікаполь, бо я вырашыў там зімаваць. [13]Зэнаса, знаўцу закону, і Апалёса
старанна забяспеч, каб ні ў чым яны не адчувалі нястачы. [14]Няхай вучацца і
нашыя быць першымі ў добрых учынках у пільнай патрэбе, каб не былі яны
бясплоднымі.
[15]Вітаюць цябе ўсе тыя, што са мною. Прывітай тых, якія любяць нас у
веры.
Ласка з усімі вамі.